*Віктар КАРАНКЕВІЧ, міністр энергетыкі Беларусі: «Актыўная фаза перагавораў з Расіяй па цане на газ, якая будзе дзейнічаць з 1 студзеня 2020 года, пачнецца ў верасні».*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***


**№ 68 (4423)**

30 жніўня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДАНІНА ПАМЯЦІ

## Дарадца Трампа наведаў мемарыял «Яма»



Перад сустрэчай з Аляксандрам Лукашэнкам дарадца Дональда Трампа Джон Болтан наведаў мемарыял «Яма», усталяваны ў памяць пра ахвяр Мінскага гета, пакараных смерцю 2 сакавіка 1942 года.

Дарадца Трампа аддаў даніну памяці загінуўшым у трагедыі і тым амерыканцам, хто выжыў або страціў родных падчас Халакосту ў Беларусі, паведамляе Пасольства ЗША ў твітары.

**Фота Пасольства ЗША ў Беларусі.**

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Лукашэнка прапанаваў Болтану шчыра і па-сяброўску абмеркаваць пытанні беларуска-амерыканскіх адносін



Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўчора на сустрэчы з дарадцам Прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Джонам Болтанам прапанаваў шчыра і па-сяброўску абмеркаваць пытанні беларуска-амерыканскіх адносін.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў бакоў ужо ёсць пэўная гісторыя перазагрузкі двухбаковых адносін. «Я прапанаваў бы абмеркаваць шчыра, нават па-сяброўску ўсе пытанні нашых адносін. Няхай яны будуць непрыемнымі для Беларусі, але вы павінны іх абазначыць. Я таксама адкрыта і сумленна абазначу тыя пытанні, якія лічу патрэбным абазначыць перад вамі для далейшага нашага супрацоўніцтва, у тым ліку якія, можа, не вельмі прыемныя будуць для ЗША. Гэта дасць магчымасць стварыць нам тую базу адносін на будучыню, якая павінна быць паміж намі», – заявіў Аляксандр Лукашэнка.

«Нягледзячы на ўсю шуміху, якая адбываецца вакол вашай паездкі, тут шмат станоўчага, асабліва для Беларусі. Станоўчае заключаецца ў тым, і нас ніхто ў гэтым не папракне (і вы, напэўна, ведаеце аб гэтым), што мы пастаянна з моманту пагаршэння нашых адносін з ЗША прапаноўвалі закрыць гэту нядобрую старонку і пачаць з новага ліста нашы адносіны», – падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што візіт Джона Болтана ў Беларусь з'яўляецца гістарычным: «Такіх значных высокапастаўленых фігур (*з ЗША.* –**БЕЛТА**) у Беларусі не было даўно. І ў гэтым таксама гістарычнасць гэтага візіту».

Акрамя таго, да цяперашняга візіту ў Беларусі пабывалі многія эксперты і спецыялісты з ЗША. «Я асабіста з імі сустракаўся, вёў размовы на розныя тэмы нашых узаемаадносін. І гэта сведчыць аб тым, што ў нас ёсць некаторая гісторыя перазагрузкі адносін», – адзначыў беларускі лідар.

Мінск і Вашынгтон супрацоўнічаюць у галінах супадаючых інтарэсаў і па пытаннях бяспекі. Адноўлены дыялог у ваеннай сферы, па лініі аховы здароўя, сельскай гаспадаркі, прафесійных абменаў. У сакавіку 2019 года амерыканскі бок быў праінфармаваны аб адмене абмежаванняў на колькасць супрацоўнікаў пасольства ЗША.

Дзейнічаюць міжурадавыя пагадненні ў галіне эканамічнага супрацоўніцтва, садзейнічання банкаўскай дзейнасці і ў іншых сферах. У маі 2019 года падпісаны мемарандумы аб супрацоўніцтве паміж Дзяржпагранкамітэтам, ДМК, МУС, Следчым камітэтам і Агенцтвам па барацьбе з наркотыкамі Міністэрства юстыцыі ЗША.

Да 2008 года Злучаныя Штаты заставаліся адным з асноўных эканамічных партнёраў Беларусі. Пасля перыяду скарачэння з 2011 года аб'ёмы гандлю з ЗША стабілізаваліся. Вашынгтон прымяняе абмежавальныя меры тарыфнага характару ў адносінах да некаторых катэгорый беларускага экспарту.

Па выніках 2018 года тавараабарот дасягнуў $711,6 млн (117,6 працэнта да ўзроўню 2017 года), экспарт – $274,4 млн (121,7 працэнта), імпарт – $437,2 млн (115,3 працэнта). Экспарт паслуг у ЗША ў 2018 годзе склаў $712,1 млн, дзе пераважаюць распрацоўкі рэзідэнтаў Парка высокіх тэхналогій. У студзені–чэрвені 2019 года тавараабарот склаў $478 млн (144,7 працэнта да студзеня–чэрвеня 2018 года), а экспарт паслуг – $438,9 млн (139,1 працэнта). Па выніках 2018 года з ЗША паступіла інвестыцый на суму $71,8 млн, у тым ліку $54,5 млн прамых.

**(БЕЛТА.)**

## Болтан – Лукашэнку: ЗША цікавяць правы чалавека і нераспаўсюджванне зброі

Дарадца прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Джон Болтан прапанаваў кіраўніку Беларусі абмеркаваць пытанні рэгіянальнай бяспекі і двухбаковага супрацоўніцтва, выказаўшы меркаванне, што ў бакоў атрымаецца знайсці агульную мову. Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, паведамляла ўчора БЕЛТА.

*«Лічу, гэта вельмі добрая магчымасць правесці размову па некалькіх вельмі важных тэмах – рэгіянальнай бяспецы, двухбаковым супрацоўніцтве,* – сказаў Джон Болтан. – *Ёсць некалькі пытанняў, якія вельмі цікавяць ЗША: правы чалавека, нераспаўсюджванне зброі. Я згодны з вамі, што мы павінны быць гранічна адкрыты па гэтых тэмах. Думаю, мы зможам знайсці супольную мову».*

Джон Болтан таксама адзначыў значныя змены, якія адбыліся ў адносінах паміж Беларуссю і ЗША, і назваў тэмы, якія хацеў бы абмеркаваць падчас свайго візіту. *«Гісторыя не стаіць на месцы. Ужо прайшло дастаткова шмат часу з распаду Савецкага Саюза, геапалітычная сітуацыя змянілася. Яна мяняецца нават падчас нашай размовы. Таму ёсць рэгіянальныя пытанні, ёсць пытанні, звязаныя з краінамі, якія геаграфічна знаходзяцца далёка адсюль, але яны таксама ўплываюць на сітуацыю тут. Гэта мы таксама хацелі б абмеркаваць з вамі»,* – растлумачыў ён, дадаўшы, што з нецярпеннем чакае магчымасці абмяняцца думкамі па гэтых пытаннях з кіраўніком Беларусі.

**(Nn.by.)**

ПАСТСКРЫПТУМ

## «Думаю, беларусы хочуць незалежнасці»

Пасля размовы з Аляксандрам Лукашэнкам Джон Болтан назваў сустрэчу «вельмі важнай», хоць «і не прыйшлі да нейкіх канкрэтных рашэнняў».

«Існуюць істотныя складанасці ў двухбаковых адносінах паміж Беларуссю і ЗША, у тым ліку пытанні правоў чалавека, нераспаўсюджання зброі, якія мусяць быць адрасаваныя. Другая тэма – гэта новая геапалітычная рэальнасць у рэгіёне, з якой мы мусім лічыцца, працаваць разам, каб найперш вырашыць пытанні правоў чалавека і нераспаўсюджання зброі. Вельмі рады, што ў нас была такая магчымасць для размовы. Мы пакуль не вырашылі гэтыя пытанні, але без такіх размоваў іх вырашэнне немагчымае».

На пытанне пра пагрозы для незалежнасці Беларусі ў святле інтэграцыі з Расіяй, Болтан заявіў, што самае галоўнае – «чаго хочуць людзі Беларусі»: «Я думаю, што яны хочуць незалежнасці».

«Калі Савецкі Саюз распаўся, паўсталі новыя дзяржавы, і Злучаныя Штаты шматразова казалі, што мы падтрымліваем суверэнітэт і незалежнасць. Народы могуць аддаваць незалежнасць і сувэрэнітэт, сябры Еўрасаюза робяць гэта ў пэўнай ступені. Часам некаторыя народы прыходзяць да высновы, што гэта не было мудрым рашэннем і яны вырашаюць выйсці, як адбылося з Вялікабрытаніяй. Любое рашэнне па пытаннях такога кшталту можа быць цалкам прадстаўнічым, калі гэта меркаванне людзей», – сказаў Джон Болтан.

ЧУЛІ?

## Сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Украіны адбудзецца 4 кастрычніка ў Жытоміры

Як паведамілі ў Гандлёва-прамысловай палаце Украіны, 4 кастрычніка кіраўнікі дзяржаў возьмуць удзел у пленарным пасяджэнні другога Форуму рэгіёнаў Украіны і Беларусі.

Напярэдадні, 3 кастрычніка, на Сабornай плошчы абласнога цэнтра Украіны адкрыецца выстаўка тэхнікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У межах форуму запланаваны сустрэчы прадстаўнікоў дзелавых колаў дзвюх краін.

ЛІЧБЫ

## Аптымістычны прагноз

Нацыянальны банк Беларусі плануе пасля 2020 года інфляцыю на ўзроўні 4 працэнты.

Як паведаміў старшыня праўлення Нацбанка **Павел Калаур** у інтэрв'ю выданню fDi Magazine, якое ўваходзіць у групу The Financial Times, па інфляцыі наша мэта на бягучы і наступны год – 5 працэнтаў.

У Нацбанку ацэньваюць эканамічны рост у 2019 годзе на ўзроўні каля 2,9 працэнта, прагноз на 2020 год – 2,5 працэнта.

РЭХА

## Што сказаў бы Джону Болтану Станіслаў Шушкевіч...



svaboda.org (RFE/RL)

Калі журналіст Радыё Свабода звярнуўся да экс-старшыні Вярхоўнага Савета, былога кандыдата на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з пытаннямі, як ён ацэньвае візіт у Беларусь дарадцы прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Джона Болтана і што сказаў бы яму, калі б была магчымасць сустрэцца, то пачуў такі адказ:

– Усе кантакты, якія адбываюцца з цывілізаванымі краінамі, з магутнымі краінамі, выгадныя для Беларусі. Таму добра, што адбываецца візіт Джона Болтана.

Я нічога не сказаў бы спадару Болтану, бо ён мае пэўныя намеры. І здагадвацца, што гэта за намеры, мне вельмі цяжка. Тут ужо так многа варыянтаў у інтэрнэце, што я не хачу іх дапаўняць сваімі здагадкамі. Я не так добра арыентуюся ў стасунках паміж Беларуссю і ЗША і шкадую, што яны на нізкім узроўні. Дык мо яны павысяцца дзякуючы гэтаму візіту.

Я думаю, што трэба падымаць адносіны да ўзроўню амбасадара і мець шырокія кантакты з наймагутнейшай дзяржавай. З ЗША трэба мець шырокія, добрыя стасункі, так, як мы пачыналі. Іх загубіў Лукашэнка. Я думаю, гэты крок можа быць пачаткам паляпшэння стасункаў паміж Беларуссю і ЗША.

ЕС–БЕЛАРУСЬ

## Визит в Беларусь миссии БДИПЧ ОБСЕ по оценке предвыборной ситуации завершится 30 августа

Начавшийся 26 августа визит миссии БДИПЧ ОБСЕ по оценке предвыборной ситуации в Беларуси завершится 30 августа, сообщил пресс-секретарь МИД Анатолий Глаз.

*«Цель миссии – общая оценка предвыборной ситуации в стране и хода подготовки к выборам, а также определение модальности и формата миссии БДИПЧ ОБСЕ по наблюдению за парламентскими выборами в Беларуси. Уже состоялся ряд встреч представителей миссии в органах государственного управления и белорусских организациях, в том числе в Министерстве иностранных дел»,* – сказал он.

9 августа пресс-служба БДИПЧ сообщила, что бюро получило приглашение наблюдать за парламентскими выборами в Беларуси. Решение о необходимости наблюдения за выборами БДИПЧ примет именно на основе рекомендаций проходящей в эти дни оценочной миссии.

*«Если будет принято решение о наблюдении за выборами, то наблюдательная миссия начнет свою работу приблизительно за шесть недель до выборов»,* – сообщили в пресс-службе бюро.

Выборы в Палату представителей Национального собрания седьмого созыва пройдут 17 ноября, в Совет Республики – 7 ноября.

**(Naviny.by.)**

НУ І НУ!

## Прыплыў...

Беларускія памежнікі затрымалі ў Друйскім раёне на беразе Заходняй Дзвіны парушальніка ў... ластах, гідракасцюме і з радыёстанцыяй.

Ім аказаўся 47-гадовы грамадзянін Беларусі. Паводле слоў мужчыны, ён займаўся падводным паляваннем. Памежнікі ў гэта не вераць, бо беларус быў у 300 метрах ад латвійскай тэрыторыі і не меў дазволу на знаходжанне ў памежнай зоне, інфармуе прэс-служба Дзяржаўнага памежнага камітэта.

СУД

## 90 тысяч долараў хаваў на гарышчы

Учора ў Мінскім гарадскім судзе паказанні даваў былы генеральны дырэктар гандлёва-вытворчага прадпрыемства «Белфармацыя» **Вячаслаў Гніцій,** які расказаў, што больш за дзесяць гадоў браў хабар, а пры вобшуку сам выдаў грошы, якія захоўваў на гарышчы, – каля 90 тысяч долараў.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Между Трампом и Путиным?

Влиятельная польская газета «Rzeczpospolita» («Республика») сообщила о том, что президент Беларуси не воспользуется приглашением своего польского коллеги Анджея Дуды и не посетит мероприятия по случаю 80-летия начала Второй мировой войны.

Вторая мировая война для нас, белорусов, – вовсе не синоним понятия «Великая Отечественная». Я помню, как попытался вызвать на воспоминания свою маму – помнит ли она начало войны? Должна ведь была помнить: родилась в Гродно в 1925 году.

– Какое начало? – спросила она.

– Ну, «22 июня, ровно в четыре часа…». Как в песне, в общем.

– Ты ничего не понимаешь, – сказала мама. – Война началась в 39-м году. А в 1941-м просто пришли немцы.

Услышать такие слова от мамы, ортодоксальной, как бы сейчас сказали, коммунистки, я никак не ожидал – хотя и перестройка шла уже вовсю. Но это было чистой правдой. Детство мамы прошло на гродненской Левонабережной улице, где на берегу Немана возле старой лесопилки стоял дом ее родителей. Так что бои 1939 года за Гродно она должна была запомнить на всю жизнь: там, совсем рядом со Старым мостом, до сих пор находится могила политрука Григория Горновых, командовавшего ротой, которая обеспечивала переправу через Неман. Но те акценты, которые расставляли в нашем сознании наши учителя (а некоторые и до сих пор продолжают расставлять эти акценты по тому же принципу), заставляли нас думать штампами: «освободительный поход Красной армии», «воссоединение народа» – в общем, все то же самое, что сейчас происходит в российских медиа вокруг темы аннексии Крыма.

Однако история гораздо сложнее любого акцента в школьном учебнике. Тот же самый «освободительный поход» 1939 года был ведь на практике частью плана по реализации памятных секретных протоколов к «пакту Молотова–Риббентропа», 80-летие со дня подписания которого также отмечалось менее месяца назад. Не могу сказать, судя по скупым маминым рассказам, что наша семья была так уж счастлива в межвоенной Польше: православные, белорусы, да еще и деда выгнали с фабрики, где он работал, за участие в каком-то кружке Громады (не так давно скан газетной заметки с упоминанием этого факта прислал мне известный лидский краевед Лявон Лавреш). Но это была вполне мирная жизнь, где все было по заведенному распорядку, и пятерых детей мои дед и бабушка имели шанс спокойно вырастить. Да и о том, что родного брата деда, переехавшего после захвата западнобелорусских земель Красной Армией в Казань, расстреляют, никто и подумать не мог.

Так и факт неприезда Александра Лукашенко в Польшу 1 сентября 2019 года уже сегодня трактуется по-разному. Все та же «Rzeczpospolita» первой опубликовала версию: дескать, Лукашенко боится гнева Владимира Путина, а потому и отказался принять приглашение, чтобы не прогневить всемогущего соседа и партнера по бесконечному строительству Союзного государства. Путин же, как известно, такового приглашения не получил.

Конечно, забавно, если бы Польша пригласила лидера государства, откровенно продолжающего худшие сталинские традиции на международной арене (это я опять про Крым и попытку добиться нового переустройства мира по аналогии с «Ялтинским саммитом Большой тройки» антигитлеровской коалиции). Однако на самом деле так ли уж велика зависимость Лукашенко от Путина, чтобы пренебречь возможностью встречи с президентом США? А Дональд Трамп на траурно-торжественных мероприятиях в Польше будет, приглашение он принял.

Не думаю, что фактор Путина сыграл решающую роль в отказе Лукашенко от этого визита. Скорее дело в характере самого президента Беларуси. В самом деле, человек, двадцать пять лет рулящий страной, отвык быть на «третьих ролях» международной политической сцены. Ну сфотографируется он, положим, с президентом США – так у него в домашнем альбоме уже есть фотография с президентом США! Без второй можно и обойтись. Тем более что известно: новичок мировой политики Владимир Зеленский не просто сфотографируется с Трампом, но и получит аудиенцию: переговоры лидеров США и Украины уже анонсированы. Не выступать же Лукашенко, как говорится, «на подтанцовке»?! Не мальчик все-таки.

И, во-вторых, давайте все-таки вспомним о неоднозначности даты применительно к ситуации с нашим государством. Нужно наконец признаться публично: территория современной Беларуси приобрела нынешние государственные границы как раз в результате событий 1939 года. Сталин, конечно, сволочь, Гитлер – изувер, оба они – массовые убийцы. Но это ведь не повод – пересматривать границы современной Беларуси и вернуть Польше все, что некоторые поляки до сих пор считают своими «восточными кресами». А в том, что сама проблема отношения к событиям 1939 года именно в этой связи могла быть упомянута – по крайней мере в форме соответствующего вопроса кого-нибудь из польских журналистов, – лично у меня сомнений нет. Слишком звонкая тема. Зачем же по ней высказываться лишний раз? Особенно если ты не контролируешь, что потом появится в прессе.

Так что Путин Путиным, а решение не ехать в Польшу принимал Лукашенко. А боялся бы Путина – не приехал бы в Минск как раз накануне один из ведущих нынешних теоретиков жесткого курса по отношению к России Джон Болтон, помощник президента США по вопросам национальной безопасности. Вот это как раз таки вызов, причем вполне конкретный. Как сказал пресс-секретарь Путина Дмитрий Песков, «внутреннее дело Беларуси».

Ну-ну…

Хаця, может быть, фактор Путина не стоит сбрасывать со счетов.

НА ЗАМЕТКУ

# …І перад прэтэндэнтам на дэпутацкі мандат апусціцца шлагбаум

Цэнтральная выбарчая камісія прыняла пастанову, якая зацвярджае парадак выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання. Нельга не звярнуць увагу на 22-гі пункт гэтага дакумента: передвыбарныя праграмы, выступленні кандыдатаў у дэпутаты, у тым ліку і пры правядзенні тэледэбатаў, павінны адпавядаць патрабаванням, указаным у частках першай, другой і трэцяй артыкула 47 і частцы першай артыкула 75 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Калі з боку таго ці іншага прэтэндэнта на дэпутацкі мандат высветліцца парушэнне адпаведнага патрабавання, то рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі, уласнік інтэрнэт-рэсурсу будуць мець права адмовіць кандыдату ў дэпутаты ў апублікаванні передвыбарнай праграмы, прадастаўленні эфірнага часу.

### З артыкула 47
### Абмежаванні пры правядзенні передвыбарнай агітацыі, агітацыі па рэферэндуме

*Забараняецца агітацыя, пры правядзенні якой ажыццяўляецца прапаганда вайны, утрымліваюцца заклікі да гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, знявагі і паклёп у дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты, а таксама заклікі, якія падштурхоўваюць або маюць на сваёй мэце падштурхнуць да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, рэферэндуму, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.*

*Забараняюцца агітацыя або прапаганда сацыяльнай, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай або моўнай перавагі, выпуск і распаўсюджванне паведамленняў і матэрыялаў, якія ўзбуджаюць сацыяльную, расавую, нацыянальную або рэлігійную варожасць.*

*Кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты, іх давераным асобам, іншым грамадзянам і арганізацыям пры правядзенні імі передвыбарнай агітацыі, агітацыі па рэферэндуме забараняецца раздаваць грашовыя сродкі, падарункі і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, праводзіць ільготны распродаж тавараў, бясплатна прадастаўляць любыя паслугі і тавары, за выключэннем агітацыйных друкаваных матэрыялаў, спецыяльна выраблены з захаваннем патрабаванняў гэтага Кодэкса для выбарчай кампаніі, правядзення рэферэндуму. Пры правядзенні передвыбарнай агітацыі, агітацыі па рэферэндуме забараняецца ўздзейнічаць на грамадзян абяцаннямі перадачы ім грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў .*

### З артыкула 75
### Передвыбарная праграма кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты

*Кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты мае права выступаць з праграмай сваёй будучай дзейнасці, тэкст якой вызначаецца кандыдатам. Праграма кандыдата не павінна ўтрымліваць прапаганду вайны, заклікі да гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, заклікаў, якія падштурхоўваюць або якія маюць на сваёй мэце падштурхнуць да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама знявагу і паклёп у дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, іншых кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты.*

РЭКОРДЫ

# Ну і ўраджай!

*У гродзенца Сяргея Гаўраніна ў агародзе вырас гарбуз вагой больш за 400 кілаграмаў.*



Для таго каб узважыць яго, спатрэбіўся пад'ёмны кран, хаця гарбуз яшчэ працягвае расці.

Мужчына заняўся развядзеннем гіганцкіх гарбузоў яшчэ раней, і ў мінулым годзе вырасціў экспанат на 450 кг, паведамляе belta.by. Гарбуз тады выкупіў адзін агратурыстычны комплекс пад Гродна.

Дарэчы, самы вялікі гарбуз у свеце важыў больш за 1 тону.

**Віктар ШПАК.**

АФІЦЫЙНА

Анатолій ГЛАЗ,
начальнік упраўлення інфармацыі і лічбавай дыпламатыі – прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў:

# «У Варшаву не былі запрошаны Казахстан, краіны Цэнтральнай Азіі і Расія»

Учора падчас брыфінгу ў МЗС «Народная Воля» пацікавілася ў прадстаўніка знешнепалітычнага ведамства Анатолія Глаза, чаму Аляксандр Лукашэнка не паедзе ў Варшаву на мемарыяльныя мерапрыемствы, прысвечаныя 80-годдзю з пачатку Другой сусветнай вайны. Пакуль нідзе афіцыйнай інфармацыі на гэты конт не было, толькі польскія СМІ і некаторыя беларускія палітолагі выказваліся, што такое рашэнне афіцыйнага Мінска выклікана тым, што на мерапрыемства не запрошаны Уладзімір Пуцін. Як вядома, наша краіна ў Варшаве будзе прадстаўлена дастаткова сціпла, калі ўлічыць, што ў сталіцу Польшчы прыедуць лідары 20 краін, у тым ліку і прэзідэнт ЗША Дональд Трамп. Ад Беларусі ў мерапрыемстве будзе ўдзельнічаць амбасадар нашай краіны ў Польшчы **Уладзімір Чушаў.**

– *Не трэба займацца ніякай канспіралогіяй*, – адзначыў Анатолій Глаз. – *Мы, безумоўна, удзячны польскаму боку за запрашэнне. Але тэма Другой сусветнай, Вялікай Айчыннай вайны для нас святая, і ў нас заўсёды быў і застаецца празрысты падыход. Яшчэ раз падкрэслю: менавіта ўсе без выключэння народы Савецкага Саюза ўнеслі пэўны ўклад у агульную перамогу над нацызмам. Вызваленне Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, канчатковы разгром нацызму на тэрыторыі Германіі сталі магчымы дзякуючы гераічным намаганням усёй шматнацыянальнай Чырвонай Арміі. Гэта не памяншае ролі саюзных армій, але трактаваць інакш, падзяляць уклад саюзных рэспублік у агульную перамогу, на нашу думку, як мінімум гістарычна няправільна. Пры гэтым у Варшаву не былі запрошаны Казахстан, краіны Цэнтральнай Азіі і Расія.*

*Але ў той жа час, улічваючы асаблівасці нашай гісторыі, для нас удзел у памятных мерапрыемствах у Варшаве 1 верасня – гэта даніна памяці ўсім ахвярам пачатковага этапу Другой сусветнай вайны.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

БЕЛАРУСЬ–ЕС

# «Я ўпэўнена, што запланаванае пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму ў лютым набудзе моц»

Дэпутат бундэстага **Барбара Хендрыкс**, якая знаходзілася ў Мінску з трохдзённым візітам у складзе нямецкай парламенцкай дэлегацыі, на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» ўдакладніла інфармацыю наконт пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму з Беларуссю.

«*Цяпер я знаходжуся ў Беларусі ў складзе дэлегацыі*, – напісала дэпутат. – *Падчас сустрэчы з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем і наведвання мемарыяльнага комплексу «Трасцянец» выявілася наяўнасць агульных поглядаў прадстаўнікоў Германіі, Еўрапейскага Саюза і Беларусі, і ў апошнія гады прыкметна добрая дынаміка. Мы бачым, што Мінск шукае кантакты з еўрапейскімі краінамі. Таму я ўпэўнена, што запланаванае пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму ў лютым набудзе моц і будзе напоўнена рэальным зместам*».

Барбара Хендрыкс – член камітэта па міжнародных справах бундэстага, былы міністр навакольнага асяроддзя, аховы прыроды і ядзернай бяспекі ФРГ, член Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі.

Як вядома, перамовы пра спрашчэнне візавага рэжыму і рэадмісіі Еўрасаюз і Беларусь вядуць з 2014 года. 12 ліпеня гэтага года Афіцыйны журнал ЕС апублікаваў рашэнне Савета Еўрасаюза аб унясенні змяненняў у Візавы кодэкс, якія прадугледжваюць у тым ліку павышэнне кошту шэнгенскіх віз да 80 еўра. Прымяняць новы візавы збор пачнуць з 2 лютага 2020 года, аднак з падпісаннем і ўваходжаннем у сілу візавага пагаднення паміж Беларуссю і ЕС кошт шэнгенскіх віз для беларускіх грамадзян складзе 35 еўра.

**БелаПАН.**

ИНИЦИАТИВА

# «Робім разам»

## Реанимобиль для Октябрьского

Научно-практические центры с современным оборудованием, передовые технологии, парк новейших автомобилей скорой помощи. Таковы реалии современной белорусской медицины… в Минске и некоторых областных центрах. А какая ситуация в регионах, небольших райцентрах?

– *Директор на моей работе умер прямо у себя в кабинете*, – рассказывает член «Говори правду» Ольга Паук, жительница райцентра Октябрьский Гомельской области. – *Ему стало плохо, вызвали «скорую». Врачи приехали на старом автомобиле-«буханке», в котором не было возможности оказать помощь. Тогда я поняла, что лекарств, оборудования и машин нет и все мы лишены шанса на спасение в экстренной ситуации. Жителей Октябрьского часто приходится отвозить в больницы Гомеля и Светлогорска, для чего нужен автомобиль, в котором есть возможность оказывать помощь в дороге.*

Так началась кампания по сбору подписей за реанимобиль для Октябрьского района. Ольга собрала 170 подписей местных жителей, они были направлены в управление здравоохранения Гомельской области и в Октябрьский райисполком.




– *В начале июня состоялся визит главы облздрава*, – рассказывает Ольга. – *Он заявил, что реанимобиль нам не положен по законодательству, потому что в Октябрьском районе слишком мало жителей. Главврач нашей районной больницы не придумал ничего лучше, как призвать… рожать побольше. Но во время встречи местная власть пообещала купить «скорую» категории «Б», в которой имеется какое-то оборудование и возможность подключения дополнительных аппаратов.*

Ольга Паук возмутилась ситуацией и начала кампанию «Робім разам», чтобы изменить законодательство о здравоохранении:

– *Получается, что если в районе мало жителей, то ему не положен реанимобиль, но при этом положен райисполком, который регулярно приобретает автомобили для своих чиновников. Мы и начали сбор подписей за изменение законодательства. Чтобы подход к распределению ресурсов в здравоохранении зависел не от количества жителей, а от степени удаленности малых городов от областных больниц или крупных медицинских центров.*

Активность команды «Робім разам» дала результат. Октябрьская районная больница объявила тендер на покупку автомобиля скорой помощи за 65 тысяч рублей.

– *Я поняла, что цена не соответствует категории, тендер не состоится, закупка будет саботирована! Приобретут «скорую» класса «А», то есть обычную перевозку. Пришлось писать в райисполком и больницу электронное письмо с просьбой обосновать выставленную цену*, – рассказывает Ольга Паук.

И на днях появились обнадеживающие новости: из бюджета Октябрьского района выделены 95 тысяч рублей на приобретение «скорой». На эту сумму можно приобрести автомобиль класса «Б», то есть с оборудованием для оказания медицинской помощи.

– *Теперь будем следить, чтобы был проведен честный тендер и приобретен современный автомобиль «скорой».*

А подписей за изменение законодательства о здравоохранении собрано уже около сотни. Вскоре они будут переданы в Министерство здравоохранения Беларуси.

**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

**Присоединиться к инициативе «Робім разам» можно по телефону +375 (29) 853-40-17.**

Министру здравоохранения Караннику Владимиру Степановичу

Коллективное обращение

Беларусь – социальное государство. Но нормативы минимальных социальных государственных гарантий рассчитываются исходя из количества проживающего населения на территории района, что лишает жителей небольших городов, городских поселков и деревень рядом с ними возможности получения полноценной медицинской помощи.

Именно из-за действующего количественного расчета распределения ресурсов мы – жители Октябрьского района, так же как и жители других удаленных от крупных городов населенных пунктов, не имеем права на необходимый нам автомобиль скорой медицинской помощи класса «С», несмотря на то, что пациентов проживающих в глубинке часто приходится транспортировать в областные больницы. Проблема заключается в том, что менее 50 000 граждан Республики Беларусь, проживающих на административно-территориальном участке, автоматически лишаются экстренной помощи при авариях, отравлениях, сердечных приступах и острых заболеваниях детей и т. д.

Обращаю Ваше внимание, **что Миссия Стратегии развития здравоохранения Республики Беларусь до 2020 года** предполагает существенное повышение уровня обеспеченности населения услугами здравоохранения, улучшение качества медицинской помощи; **III этап Стратегии предполагает** создание эффективной белорусской модели здравоохранения, укрепление ее потенциала для **обеспечения каждого гражданина доступной и качественной медицинской помощью.**

Мы, жители Октябрьского района, требуем пересмотра принципа распределения материальных ресурсов в сфере здравоохранения и перехода от учета количества населения на административно-территориальном участке к учету удаленности населенного пункта от крупных городов и областных центров, где расположены больницы

с полноценным спектром медицинской помощи. Мы уверены, что изменение подхода к обеспечению населения минимальными гарантиями в сфере здравоохранения поможет повысить уровень выживания пациентов в экстренных для здоровья ситуациях, повысит качество жизни людей в регионах и станет одним из факторов развития малых городов.

Письменный ответ прошу направить: 247319, Гомельская область, г. п. Октябрьский, ул. [illegible] льге Викторовне.

| № п/п | Фамилия, имя, отчество | Год рождения | Адрес | Телефон и (или) электронная почта | Подпись |
|---|---|---|---|---|---|

*Беларусь – адзіная ў Еўропе дзяржава, дзе дзейнічае смяротнае пакаранне. За апошнія 20 гадоў у краіне было расстраляна больш за 400 чалавек, прыгавораных да вышэйшай меры пакарання.*

ВІНШУЕМ!

## Уладзіміру Забеле – ордэн Пашаны, Уладзіміру Тоўсціку – ордэн Францыска Скарыны

Учора стала вядома, што Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні многіх прадстаўнікоў самых розных галін.

Прыемна адзначыць, што прафесар кафедры рэжысуры кіно і тэлебачання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Уладзімір Забела** ўдастоены ордэна Пашаны.

Кавалерам ордэна Францыска Скарыны стаў загадчык кафедры малюнка гэтай жа Акадэміі мастацтваў **Уладзімір Тоўсцік**.

**Вера СЦЯПУРА.**

ПАСЛЯ ТРАГЕДЫІ

## Ці будзе звольнена Аксана Лось?

Дырэктар стаўбцоўскай школы №2, дзе летась здарылася страшэнная трагедыя – ад рук вучня загінулі 10-класнік і настаўніца, звальняецца. Пра гэта калектыў школы і бацькі вучняў даведаліся 28 жніўня – напярэдадні новага навучальнага года, паведаміла праваабаронца **Таццяна Гацура- Яворска**.

Дырэктар **Аксана Лось** заявіла, што прыняла такое рашэнне сама. Аднак учора каля сотні чалавек сабраліся каля школы, каб падтрымаць дырэктара. Яны кажуць, што ўсё лета Аксана Лось рыхтавала школу да новага навучальнага года, а рашэнне пра звальненне было прынята ў апошнюю хвіліну.

Дарэчы, у Стаўбцоўскай сярэдняй школе №2 Аксана Лось адпрацавала 22 гады, шэсць з іх – на пасадзе дырэктара.

**P.S. Учора з'явілася інфармацыя, што калектыў школы напісаў ліст А.Р.Лукашэнку з просьбай не дапусціць звальнення Аксаны Лось з пасады дырэктара школы.**

ДАРЭЧЫ

## Па лініі МЗС запрашэння няма

Падчас брыфінгу прадстаўніка МЗС запыталі, ці атрымала Беларусь ад літоўскага боку запрашэнне на перапахаванне паршткаў Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў.

*«Мы (маркую, гэтак жа, як і вы) чыталі ў сродках масавай інфармацыі заявы асобных высокапастаўленых прадстаўнікоў літоўскага боку аб запрашэнні нашай урадавай дэлегацыі на паказаную цырымонію. На справе па дыпламатычных каналах ніякіх запрашэнняў да нас не паступала»*, – адзначыў Анатолій Глаз.

Як вядома, перапахаванне паршткаў адбудзецца гэтай восенню на могілках Росы ў Вільнюсе. Урадавая камісія вырашыла імёны перапахаваных паўстанцаў запісаць на літоўскай, польскай і беларускай мовах.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Дзмітрый Серада патрабуе каля 3 тысяч рублёў кампенсацыі

*У судзе Заводскага раёна Мінска распачаўся грамадзянскі працэс па іску доктара-педыятра Дзмітрыя Серады і яго сям'і.*
*Яны хочуць атрымаць кампенсацыю за маёмасць, якую тры гады таму пашкодзілі амапаўцы падчас памылковага ўварвання ў іх кватэру.*
*Нядаўна «Народная Воля» нагадвала пра гэтую справу, якая цягнецца ўжо больш за тры гады.*

Раніцай 4 жніўня 2016 года ў кватэру Дзмітрыя Серады ўварваліся невядомыя ў масках. У дзверы ніхто не званіў, яе проста 15 хвілін выломвалі. Яшчэ некалькі чалавек, як пазней іх назаве Дзмітрый – «альпіністаў», спусціліся з даху на балкон і разбілі шкло балконных дзвярэй у кухні. Нападнікі са зброяй у руках беглі з кухні ў пакой з крыкам «На падлогу!». На вачах у перапалоханых жонкі і трохгадовай дачкі Дзмітрыя павалілі, заламалі рукі і скавалі іх кайданкамі. Пазней высветлілася, што гэта былі супрацоўнікі АМАПа. Аказалася, што Дзмітрыя падазраюць у хуліганстве. Але пазней высветлілася, што памылкова. Два дні яго пратрымалі пад вартай, а пазней выпусцілі, пры гэтым ніхто з міліцыянераў не выбачыўся, хаця ў афіцыйнай паперцы было пазначана, што «прычын для затрымання не было».



З таго часу Дзмітрый Серада спрабуе прыцягнуць да крымінальнай адказнасці выканаўцаў брутальнага захопу і дамагчыся матэрыяльнай і маральнай кампенсацыі. На працягу трох гадоў ён атрымаў сем (!) адмоў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. І толькі сёлета, у ліпені, нарэшце суд Партызанскага раёна задаволіў іск Дзмітрыя Серады і адмяніў пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў аддзела ўнутраных спраў. Матэрыялы адпраўлены на дадатковую праверку.

Пакуль вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы, Дзмітрый і яго маці як уласніца кватэры падалі іск да МУС і Міністэрства фінансаў аб спагнанні матэрыяльнай кампенсацыі – каля 3 тысяч рублёў. Толькі на рамонт пасля «візіту» АМАПа прыйшлося выдаткаваць каля 2200 рублёў, таксама патрабаваліся грошы і на лячэнне.

У судзе Заводскага раёна Мінска, дзе 28 жніўня адбылося папярэдняе слуханні, Дзмітрый Серада падаў хадайніцтва аб прыпыненні разгляду гэтай грамадзянскай справы да таго моманту, пакуль не з'явіцца рашэнне па дадатковай праверцы Следчага камітэта наконт узбуджэння крымінальнай справы супраць амапаўцаў. Аднак суддзя адхіліла яго хадайніцтва.

МУС іск Серады не падтрымлівае, пазіцыя ведамства: супрацоўнікі АМАПа дзейнічалі ва ўмовах апраўданай рызыкі. Прадстаўнік ведамства заявіў у судзе, што матэрыяльная кампенсацыя магчыма толькі ў тым выпадку, калі будзе даказана незаконнасць дзеянняў супрацоўнікаў АМАПа. Мінфін таксама не прызнае іскавыя патрабаванні, яны пісьмова апавясцілі пра неабгрунтаванасць прыцягнення сябе ў якасці адказчыка. МУС таксама аспрэчвае выстаўленыя Серадой і яго маці сумы, затрачаныя на аднаўленне пашкоджанай маёмасці і на аднаўленне здароўя.

– *Я вельмі ўдзячны ўсім за падтрымку!* – сказаў пасля судовага пасяджэння Дзмітрый Серада. – *Асобная падзяка адвакату! Такога прынцыповага і скрупулёзнага чалавека я даўно не сустракаў, а ў судзе кожная дробязь важная! Адвакат са мной паўмесяца ездзіў у Следчы камітэт на 1–3 гадзіны ў дзень, каб перапісваць тры тамы (кожны па 300 і больш старонак) маёй справы, бо капіраванне забаронена...*

Асноўнае пасяджэнне па іску сям'і Дзмітрыя Серады да МУС і Мінфіна адбудзецца 10 верасня, на яго будуць выкліканы ў якасці сведак супрацоўнікі міліцыі, дактары і эксперты, запатрабаваны медыцынскія карты членаў сям'і Серады. Што тычыцца маральнай кампенсацыі, то Дзмітрый Серада пакуль не вырашыў, ці будзе хадайнічаць аб ёй у рамках гэтага працэсу.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРОБЛЕМА!

# Пугало, которого никто не боится

*(Рассуждения о роли Госавтоинспекции в техосмотре автомобилей)*

Тема технического осмотра автомобилей, которая давно обсуждается в обществе, вышла на новый виток актуальности. На прошлой и на нынешней неделе сотрудники Госавтоинспекции, выполняя прямое указание сверху, устраивали чуть ли не облавы на тех водителей, которые не пропустили свой транспорт через технический осмотр на диагностических станциях. Но что можно сделать за десять дней, отведенных на эту операцию? Без допуска к участию в движении по дорогам ездят миллионы владельцев машин, попробуй проверь их всех! Сделать это физически невозможно даже за несколько месяцев.

Замечу: до этого существовало негласное указание автоинспекторам данным вопросом не заниматься, и весь контроль за уплатой сбора с владельцев транспортных средств был возложен на УП «Белтехосмотр». Государство в лице соответствующих инстанций «забыло» выработать систему уплаты сбора, и свет сошелся клином на единственном инженере диагностической станции. От этой темы уклонились и Минфин, и Министерство по налогам и сборам, и Государственная автомобильная инспекция, которая более 50 лет проводила политику контроля за техническим состоянием транспортных средств.

Государственный технический осмотр был для всех водителей и работников автомобильных хозяйств ежегодным экзаменом. В результате этой полувековой работы ДТП по причине технической неисправности было сведено по статистике почти к 1%.

Но с введением уплаты дорожного сбора появились «умники», которые стали ратовать за отмену техосмотра. Водители, почувствовав слабинку, массово начали игнорировать уплату дорожного сбора и, соответственно, обязанность прохождения техосмотра. Результаты не заставили себя ждать. По данным ГАИ, за 2018 год количество ДТП по причине технической неисправности автомобилей возросло в Республике



Беларусь на 13 процентов, число погибших в них людей – с 66,7 до 73,9 процента. За 7 месяцев 2019 года произошло восемь таких происшествий, в которых погибли три человека и 27 получили ранения.

Предложение о включении суммы сбора в стоимость топлива, я считал и считаю, утопичное – необходима государственная система контроля за уплатой сбора с владельцев транспортных средств. Нужно не отменять сбор, а строго контролировать, как он проводится. Чиновникам Минфина не мешало бы вернуться к Инструкции Министерства финансов СССР №65 от 3 апреля 1981 года. Если вкратце, ее основные положения таковы: приобрел автомобиль – уже при регистрации в ГАИ уплати сбор, продал автомобиль – при снятии с учета также уплати сбор. Не платил 5–10 лет – заплати с учетом пени. Следует разрешить уплачивать дорожный сбор в течение календарного года, в случае просрочки – плюс пеня. Понятно, нужно освободить от сбора ветеранов войны, инвалидов, а для граждан, вышедших на пенсию, уменьшить сбор на 50 процентов.

Пятнадцать лет назад функцию техосмотра у государственной автоинспекции забрали и передали Министерству транспорта. Надеялись, естественно, на то, что станет больше предпосылок для безопасной езды на наших дорогах. Это ведомство с энтузиазмом взялось за новые обязанности, за короткий срок с участием предпринимателей обстроили более 250 станций диагностики.

Все шло нормально до 2014 года, пока государство не ввело денежный сбор с владельцев автомобильного транспорта. Сделано это было по образцу, ставшему и драматичным, и комичным. Новый порядок, новая структура должны стать для участников движения пугалом. Мол, народ лучше реагирует на страх.

Процедуру взимания денег установили таким образом, что, прежде чем отправиться с автомобилем на техосмотр, гражданин должен уплатить государству этот пресловутый сбор.

Но люди у нас ушлые, они немало разных издевательств видели на своем веку. И научились обходить препоны разными способами, на этот раз обратились к древнему изобретению – тихому саботажу. Автомобилисты игнорируют сбор, причем в массовом порядке. Заодно перестали проходить техосмотр. И, как следствие, гром должен был грянуть.

На слуху у минчан, и не только у минчан, страшный случай, который произошел на проспекте Независимости напротив торгово-развлекательного комплекса «Замок» неподалеку от Дворца Независимости. Грузовик сбил на переходе бабушку и внучку. Внучка от тяжелых травм погибла, бабушка стала калекой. В ходе следствия выяснилось, что злополучный грузовик не подвергался техническому осмотру и каждый день, в принципе, мог спровоцировать какое-либо ДТП не в одном, так в другом месте. Судьба распорядилась так, что катастрофа произошла в центре Минска, словно специально для того, чтобы обратить внимание общества на очевидное безобразие с контролем над транспортом.

Попутно всплыло и другое недоразумение. Бизнесмен, построивший «Замок», не нашел денег на подземный переход в оживленном месте для посетителей комплекса. Вполне возможно, что этого от него отцы города и не требовали. Подземный переход вырыли поодаль, там, где и пешеходов почти нет. После трагедии «приняли меры»: на месте происшествия установили посередине проспекта забор. Так проще всего. Но это уже другая история.

Сработала ли тактика превратить Министерство транспорта в эффективное пугало для водителей? Увы, создатели нового порядка крупно просчитались. Имеем пугало, которого те же водители перестали бояться. Дело в том, что, изобретая своего рода велосипед, чиновники смели всё старое, посчитав его ненужным хламом.

Мы получили картину тотального неповиновения. Владельцы автомобилей массово уклоняются от обязательной и очень важной процедуры. Все увидели, что дела плохи. Принятые нормативные акты не работают. Далеко ли до хаоса на дорогах?!

Как стало известно, в феврале нынешнего года появился проект указа президента о злободневной проблеме. Он предусматривал, что с 1 апреля уплата налога перестанет зависеть от прохождения техосмотра, который должен стать строго обязательным. Текст проекта указа выставили на обсуждение народа. Естественно, возникла масса суждений, мнений, предложений. Но полемическая буря не дала результата. Прошло и первое апреля, и пятое, и десятое, наступил май, а никто не обнародовал итогов обсуждения, не сообщил о возможной судьбе документа.

Я сказал бы так: людям проехали по ушам, отвлекли внимание, не удосужившись довести дело до конца.

Циркулируют различные слухи. Раздаются предложения о введении налога в стоимость бензина. Мол, сколько платишь – столько ездишь. Считаю это предложение вредным.

В движении задействована масса различных машин. Есть, например, специальные машины. Та же «скорая помощь», милиция, подъемные краны, строительные машины. «Зеленстрой» в столице расходует тонны бензина, чтобы покосить траву на газонах. Лесное хозяйство тратит бензин не только для транспортировок, но и для технологических операций по уходу за лесом и его заготовке. Если ввести налог в стоимость топлива, резко возрастет его стоимость, то, рискую предположить, дороги наши и автопарки зарастут травой. Вводить налог в стоимость бензина, на мой взгляд, крайне нецелесообразно.

Очень много казусов с оплатой налогов. Владельцев новых машин, которые могут предъявлять их для техосмотра раз в два года, вынуждают платить налог за два года вперед. С какого такого рожна с них дерут деньги, мы же не знаем наперед, что может случиться с владельцем.

В государстве по-прежнему функционирует автомобильная инспекция, но она полностью устранилась от контроля за состоянием парка автомобилей. Они дают цифру: якобы за прошлый год за игнорирование техосмотра оштрафовано 300 тысяч водителей. Вроде бы колоссальное количество наказанных. Сопоставим цифры: техосмотр в стране не проходят два с половиной миллиона владельцев автомобилей.

Хотелось бы услышать, что предлагают руководители этого подразделения Министерства внутренних дел. Они по-прежнему собираются исполнять роль безучастных наблюдателей.

Есть такая расхожая поговорка: все мы люди-человеки. Почему я о ней вспомнил?

Инспекторы ГАИ также имеют автомобили, и в данном качестве им также близки интересы участников массового саботажа. Легко представить себе возможный диалог между владельцем автомобиля и инспектором ГАИ.

– Не прошли техосмотр?

– Да, не прошел. Этот налог дурное государство придумало!

– Ладно, езжайте…

И расходятся с миром, посочувствовав друг другу. В лучшем случае ограничившись предупреждением, в худшем – минимальным штрафом.

Роль автоинспекции, это видно невооруженным глазом, сведена к нулю.

Ликвидированы посты автоинспекции на въездах в город. Мимо них ранее практически не могли прошмыгнуть грязные, ржавые, битые, а значит, неисправные машины.

Сегодня в столицу стекается масса транспорта с вышеперечисленными недостатками. И никто не обеспокоен. Никому это не интересно. В то же время перед милицией поставлена задача наводить порядок в сельхозпредприятиях, накануне осенней посевной такую команду дал Александр Лукашенко.

Мы знаем: если тщательно проверить состояние сельхозтехники, то 90 процентов ее придется поставить под забор. Что изменит массовый выезд инспекторов в сельские предприятия? Практически ничего. Переживем еще один этап показушной деятельности.

Практически никто дорожный надзор не отменял. Поэтому стоит вспомнить о некоторых старых правилах и подходах к их выполнению.

В 90-х годах прошлого века Минфин СССР издал приказ: владелец транспортного средства должен платить сбор. Ставишь на учет автомобиль – плати, снимаешь – плати. Всё было просто и эффективно. Сейчас это правило забыто.

Необходимо включить вопрос о прохождении техосмотра в страховку в случае ДТП. С техосмотром порядок – есть полная оплата, не проходил – получай всего 10 процентов.

Объявленная декада под названием «Гостехосмотр» пролетела мгновенно. Но проблема за этот срок не разрешилась. А она имеет государственное значение.

**Василий ПАВЛОВИЧ, водитель с 40-летним стажем.**

